# ГОДНАСЬЦЬ

ВЫДАНЬНЕ ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСКАЕ ШЛЯХТЫ



№ 1 1993 МЕНСК
ГОД ВЫДАНЬНЯ 1

## ЗЬМЕСТ



"Годнасьць": выданьне Згуртаваньня Беларускае Шляхты.

Навукова-папулярны квартальнік (у 1993 г. два нумары).

Радактар нумару — Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.
Сябры радакцыі — Леанід Акаловіч, Анатоль Грыцкевіч.
Мастак — Максім Капран.

Адрэса:
Беларусь, 220102,
Менск-102, а.с.-212.
"Годнасьць".

Address:
Hodnasc (Dignity).
Box 212, Mensk-102,
220102, Belarus.



Наклад — 900 асобнікаў.

Добры дзень, шаноунае панства!

Сёньня да Вас у рукі патрапіў часопіс Згуртаваньня Беларускае Шляхты. Праз гэтае выданьне мы зьбіраемся распавесьці пра нашую дзейнасьць пра мэты і жаданьні беларускае шляхты

Але найперш трэба ўсьвядоміць, што гэткае шляхта. Разуменьне таго можа прыйсьці толькі праз веданьне гісторыі нашае Айчыны. І таму ас ноўная накіраванасьць выданьня — гэта мінуўшчына, вайсковая гісторыя, бо шляхта й войска паняцьці амаль тоесныя. Шляхта паўстала, як вайскова служылы стан насельніцтва, што ахоўваў і бараніў дзяржаву

Меў ён свае ўласныя інстытуты, асноўным зь якіх зьяўлаецца гэральдыка. Калі шляхецкія традыцыі, пэўныя гэнеалягічныя зьвесткі захаваліся, дык памяць пра гэрбы практычна страчаная. На старонках часопіса знойдзецца меса й дзеля аднаўленьня гэтае слыннае традыцыі

І безумоўна тое, што шляхта не была бязьлікаю аморфнаю масаю. Усе складаецца з асобных людзей, постацяў, якія зьяўляюцца рэпрэзэнтантамі пэўных родаў, гісторыю якіх будзем падаваць у выданьні.

Ведама, што за час расейскага панаваньня шмат шляхты было паз баўленае сваіх спрадвечных правоў, зьведзена да становішча сялянства. З гэтага сёньняшнія нашчадкі шляхетных продкаў ня маюць уяўленьня пра сваё паходжаньне. Каб нейкім чынам зьвесьці гэтую праблему мы будзем друкаваць сьпісы шляхты, ня ўлічваючы расейскае ўмяшальніцтва.

Нам падаецца, што ўзгаданае тут, тое, што мусіць быць на старонках, дапаможа зразумець становішча продкаў у міну тым, нашае сёняшняе мес сца й тое, да чаго мы павінны імкнуцца.

**ЗАЯВА**
**І /Устаноўчага/ Сойму**
**Згуртаваньня Беларускае Шляхты**

Устаноўчы Сойм Згуртаваньня Беларускае Шляхты адкрыта заяўляе пра сябе, заклікае нашчадкаў беларускае шляхты згуртавацца самім і з усімі нацыянальна сьведамымі сіламі Беларусі ў справе ўмацаваньня нашае Бацькаўшчыны палітычна й эканамічна, у справе абароны сапраўднае незалежнасьці Рэспублікі Беларусь, яе самастойнасьці й сваёй уладарнасьці, праўдзівае гісторыі нашае дзяржавы, нашага народу й ягонае шляхты, як былога вайсковага служылага стану.

Паўсталае Згуртаваньне Беларускае Шляхты — гэта дабраахвотная навукова-культурная грамадзкая арганізацыя, якая дзейнічае згодна з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і статутам ЗБШ.

Згуртаваньне нашчадкаў беларускіх шляхціцаў лічыць сябе пераемнікам прагрэсіўных справаў ды традыцыяў шляхецкіх соймаў і соймікаў Вялікага княства Літоўскага (Беларуска-Летувіскага гаспадарства), спадкаемцамі губэрнскіх і павятовых шляхецкіх сходаў ды "Саюза асобаў, запісаных у радаводныя кнігі Менскай губэрні".

Згуртаваньне Беларускае Шляхты ажыцьцяўляе свае мэты на аснове:

— аб'яднаньня й згуртаваньня нашчадкаў асобаў шляхецкага стану на падставе агульных інтарэсаў;

— усебаковага вывучэньня, зьберажэньня, адраджэньня й разьвіцьця беларускай шляхецкай духоўнай і матар'яльнай культуры й лепшых традыцыяў шляхты Беларусі;

— высьвятленьня станоўчага ўкладу шляхты ў дзяржаўную абарону, палітыку, эканоміку, гаспадарку, навуку, тэхніку, супольную гісторыю, культуру, асьвету, літаратуру, мастацтва й архітэктуру нашага ды іншых народаў і дзяржаваў;

— навуковай распрацоўкі праблемаў гэнеалёгіі, геральдыкі й гісторыі шляхецкага стану ў цэлым ды асобных родаў ці сем'яў нашае краіны;

— выяўленьня ды выкарыстаньня слаўных старонак агульнай і вайсковай гісторыі Беларусі;

— прапаганды ды пашырэньня гістарычных ведаў, культурных звычаяў і ўзораў шляхетных паводзінаў сярод насельніцтва Беларусі;

— узаемнага абмену вопытам і здабыткамі гэнеалягічнае працы зь іншымі падобнымі арганізацыямі й установамі сьвету.

Зацьверджаны ўстаноўчым Соймам статут ЗБШ вызначае правы й абавязкі сябраў, прадугледжвае свае сімвалы й рэквізіты, дэмакратычнае трохступеннае сяброўства (сябра-прыхільнік, сябра-прэтэндэнт, рэчаісны сяб-

ра), свае кіроўныя органы, асяродкі ЗБШ у раёнах, мае на мэце разьвіваць матар'яльна-фінансавую й гаспадарча-разьліковую дзейнасьць.

ЗБШ выступае за сапраўдную незалежнасьць Беларусі й адзінадзяржаўнасьць беларускае мовы.

ЗБШ — за кансалідацыю нацыі ў яе этнічных межах, дапамогу й падтрымку дзяржаваю беларусаў і за межамі Рэспублікі Беларусь, за роўнасьць і павагу, культурна-асьветнае разьвіцьцё зямляцтваў усіх этнасаў Беларусі.

ЗБШ — за кансалідацыю розных сацыяльных групаў насельніцтва Беларусі ў станаўленьні, паўнапраўным ды шырокім разьвіцці культуры, адукацыі, асьветы на роднай мове.

ЗБШ — за пашырэньне грамадзка-культурнага руху сярод розных групаў жыхароў Беларусі.

ЗБШ — за права чалавека на незалежную юрыдычна-судовую абарону годнасьці, гонару й жыцьця асобы.

ЗБШ — за шырокую прапаганду культурнай спадчыны народаБеларусі, за шляхетныя паводзіны й ўзаемаадносіны паміж суайчыньнікамі ў штодзённым жыцьці.

ЗБШ — за дапамогу ўсім, хто хоча вывучыць і спазнаць гісторыю й гэнеалёгію сваіх продкаў як праяву спадчыннасьці пакаленьняў розных нацыянальнасьцю й веравызнананьнем грамадзкіх групаў насельнікаў Беларусі.

1.XI.1992г. г. Менск.

**Ухвала I (Устаноўчага) Сойму ЗБШ**
**"Пра Найвышэйшую Раду ЗБШ."**

1. Абраць Найвышэйшую Раду ЗБШ ў колькасьці дванаццаці чалавек.

2. Сябрамі Найвышэйшае Рады ЗБШ ёсьць:
Анатоль Грыцкевіч (Старшыня ЗБШ);
граф Андрэй-Станіслаў Цеханавецкі (Ганаровы старшыня ЗБШ);
Леанід Акаловіч (Намесьнік старшыні ЗБШ, Галоўны сакратар ЗБШ);
Пётр Гупча (Намесьнік старшыні ЗБШ);
Уладзімер Сьвяжынскі (Галоўны скарбнік ЗБШ);
Аляксандар Буевіч;
Уладзіслаў Вяроўкін;
Юры Грынявецкі;
Юсуф Крыніцкі;
Іван Матусевіч;
Абу-Бякір Шабановіч;
Аляксандар Шымбалёў.

№ 1 — 1.XI.1992.

**Ухвала I (Устаноўчага) Сойму ЗБШ**
**" Пра Равізійную камісію ЗБШ."**

1. Абраць Равізійную камісію ЗБШ ў колькасьці трох чалавек.
2. Сябрамі Равізійнае камісіі ёсьць:
Тамара Жукава (Старшыня);
Аляксандар Кулеш (Сакратар);
Валеры Дашкевіч.

№ 2 — 1.XI. 1992.

**Ухвала I (Устаноўчага) Сойму ЗБШ**
**" Пра рэчаіных сяброў ЗБШ."**

1. Прызнаць за сябрамі Найвышэйшае Рады годнасьць рэчаісных сябраў ЗБШ да часу II-га Сойму ў поўным аб'ёме.

2. Утварыць на II-ім Сойме паўнамоцную камісію дзеля праверкі правоў сябраў Найвышэйшае Рады, абраных І-ым Соймам, на годнасьць рэчаісных сябраў.

№ 3 — 1 XI.1992

## Ухвала I (Устаноўчага) Сойму ЗБШ
## "Пра ўступныя і сяброўскія складкі."

1. На перыяд 1992 года вызначыць уступныя складкі ў памеры 100 рублёў.

2. На I паўгодзьдзе 1993 года вызначыць памер сяброўскіх (уступных) складак у 250 рублёў.

3. Даручыць Найвышэйшае Радзе ў далейшым штопаўгодзьдзе вызначаць памер уступных і сяброўскіх складак.

№ 4 — 1.XI.1992.

## Ухвала I (Устаноўчага) Сойму ЗБШ
## "Пра рэгістрацыю ЗБШ."

1. Даручыць Найвышэйшае Радзе зарэгістраваць Статут Згуртаваньня Беларускае Шляхты ў Міністэрстве юстыцыі Беларусі.

2. Дазволіць Найвышэйшае Радзе ўносіць зьмены ў Статут пры рэгістрацыі па ўзгадненьні зь Міністэрствам юстыцыі.

№ 5 — 1.XI.1992.

# ШЛЯХТА ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА ДА ЛЮБЛІНСКАЙ УНІІ 1569 ГОДУ.

*Анатоль Грыцкевіч*

Кіроўным і пануючым станам у Вялікім княстве Літоўскім і Рускім у XIII — XVI ст. зьяўлялася саслоўе фэадалаў. На працягу вялікага гістарычнага перыяду існаваньня Беларуска-Літоўскага гаспадарства, да аб'яднаньня яго з Польскім каралеўствам у фэдэратыўную Рэч Паспалітую, унутрыпалітычнае становішча фэадалаў і ўзаемадачыненьні паміж рознымі групамі ўнутры стану зьмяняліся.

XIII — XIV ст. былі перыядам сінтэзу беларускіх і літоўскіх грамадзкіх дачыненьняў[1]. Асноўную масу фэадалаў складалі на тэрыторыі беларускіх зямель нашчадкі ўдзельных князёў — Полацкага, Тураўскага й Смаленскага, баяраў і дружыньнікаў. Да іх у XIV ст. далучыліся літоўскія (а ў XV ст. й жамойцкія) нобілі й дружыньнікі. Некаторая частка апошніх асела ў адміністрацыйных цэнтрах на тэрыторыі Беларусі й атрымала тут зямельныя валоданьні[2].

Усе ўладальнікі маёнткаў абавязаны былі выконваць вайсковую ("земскую") службу. Гэтую павіннасьць выконвалі фэадалы (князі, баяры, шляхта) асабіста й разам са сваімі васаламі — вайсковымі слугамі, таксама фэадаламі (баярамі, шляхтаю), якія знаходзіліся на службе сваіх сенёраў і атрымлівалі ад іх зямлю за вайсковую службу. Земская вайсковая служба, заснаваная на землеўладаньні, была абавязковаю дзеля ўсіх фэадалаў землеўласьнікаў на земскім праве[3].

Пра існаваньне розных групаў унутры пануючага ў дзяржаве стану нагадваюць вялікакняскія прывілеі (граматы), дагаворныя граматы й іншыя афіцыйныя дакументы. Гэтак, у прывілеі Ягайлы 1387 году названы толькі "рыцары, або баяры"[4]. А ўжо ў Гарадзельскім прывілеі 1413 году ў лацінскім тэксьце нагадваюцца "бароны, нобілі й баяры", што адпавядала назвам, якія ўваходзілі ва ўжытак у гэты час — "паны" й "знатныя (значныя) баяры" (у тэксце дакумента "бароны" й "нобілі") ў адрозьненьні ад асноўнае масы баяраў.

Прывілей 1432 г. пералічвае катэгорыі фэадалаў — "князі, нобілі й баяры"[5]. Гэтыя катэгорыі паўтараюцца і ў наступных прывілеях да часу Статута Вялікага княства Літоўскага 1529 г. ўключна[6].

Структура стану фэадалаў у перыяд яго фармаваньня была заснавана на гэрархічнае аснове, у значнай ступені на васальных дачыненьнях, на гэрархічнае сістэме зямельнае ўласнасьці.

Верхавіну яго складалі князі й значныя баяры (паны); яны вылучыліся з агульнае масы фэадалаў, як з прычыны свайго эканамічнага, гэтак і палітычнага становішча ў дзяржаве.

На працягу XIV — XVI стст. у Беларуска-Літоўскім гаспадарстве праходзіў працэс афармленьня стану фэадалаў, атрыманьня ім прывілеяў і канстытуяваньня складу.

Ва ўмовах дзяржаўных саюзаў (уній) з Польшчаю (ад 1385 г.) гэты працэс ішоў пад уплывам ужо юрыдычна афармленага ў Кароне да канца XIV ст. шляхецкага стану. Шляхта ў Польшчы была адзіным і раўнапраўным з пункту гледжаньня прывілеяў і ільгот пануючым станам, хоць і ў складзе яго існавалі розныя групы[7]. Першым крокам да рэцэпцыі (перайманьня) правоў польскае шляхты быў прывілей Польскага караля й Вялікага князя Літоўскага й Рускага Уладзіслава (Ягайлы) 1387 г., у якім гаварылася аб праве баяраў-каталікоў на спадчыну маёнткаў і аб адзінстве судовае ўлады паводле ўзору Каралеўства Польскага[8].



Сеймавая шляхта
З малюнка XIX ст

Яшчэ больш выразна пра шляхецкія правы гаворыцца ў Гарадзельскім прывілеі 1413 г. У гэты акт Кароль Ягайла й Вялікі князь Літоўскі й Рускі Вітаўт уключылі прывілей, які замацоўваў станава-палітычныя правы паноў і баяраў-каталікоў, якія атрымалі пацьвер-джаньне права атрымліваць у спадчыну маёнткі й распараджацца імі (са згоды Вялікага князя). Панам і баярам-каталікам было дадзена права займаць вышэйшыя адміністрацыйныя пасады (ваяводаў і кашталянаў Віленскіх і Троцкіх). З мэтаю ўмацаваньня дзяржаўнае вуніі паміж Польшчаю і Беларуска-Літоўскаю дзяржаваю 47 фэадалаў прынялі гэрбы польскае шляхты й уступілі зь імі ў гэрбавае брацтва[9].

Але ўжо прывілей 1432 і 1434 гг. пашырылі правы паноў і шляхты каталіцкага веравызнаньня на князёў і баяраў праваслаўнага веравызнаньня беларускіх і ўкраінскіх зямель Беларуска-Літоўскага гаспадарства. Гэтым князям і баярам надавалася права праз літоўскіх баяраў-каталікоў атрымаць гэрбы й прывілеі, якія мела шляхта, ужо прынятая ў польскае гэрбавае брацтва[10].

Гэтыя шляхецкія правы былі зацьверджаны агульназемскім прывілеям (граматаю) 1447 г. усім фэадалам Беларуска-Літоўскага гаспадарства. Гэты прывілей дапаўняў ранейшыя ільготы й прывілеі фэадалам[11], ім гарантавалася права валоданьня маёнткамі. Вялікі князь Казімер зрабіў ім новыя саступкі, перадаўшы ўладальнікам маёнткаў права, якое раней мела дзяржава — судзіць насельнікаў гэтых маёнткаў, у склад якіх уваходзілі ня толькі залежныя ад фэадалаў сяляне, але й мяшчане, жыхары прыватнаўласьніцкіх гарадоў і мястэчкаў. У выніку гэтага — па сутнасці юрыдыч-

най рэформы — прыкладна палова сельскага насельніцтва дзяржавы была перададзена пад уладу фэадалаў-земляўладальнікаў[12].

Стан фэадалаў складаўся зь некалькіх групаў. У XIV--XV стст. найвышэйшай групай былі князі, якія пры пераліку розных групаў фэадалаў у дзяржаўных актах таго часу звычайна ўзгадваюцца на першым месцы[13]. Гэта былі прадстаўнікі вялікакняскай дынастыі Гедымінавічаў, нашчадкі Рурыкавічаў і былых літоўскіх уладальніцкіх сем'яў, тытуляваныя выхадцы з Маскоўскага, Цьвярскога й іншых княстваў Русі, а таксама нашчадкі ханаў і вышэйшых фэадалаў з Залатой Арды, пазьней з Крымскага ханства.

Становішча князёў у гэты перыяд істотна зьмянялася. У канцы XIV — першай чвэрці XV ст. практычна былі пазбаўлены сваёй улады князі пануючай дынастыі Гедымінавічаў, якія сядзелі ў сваіх удзельных княствах, а на іх месца пасаджаны вялікакняскія намесьнікі У тых тэрытар'яльных княствах, што яшчэ засталіся, адбываўся працэс раздрабленьня. Частка князёў у XV ст. ператварылася ў сярэдніх або нават у дробных земляўладальнікаў-вотчыньнікаў, а некаторыя трапілі ў васальную залежнасьць ад іншых князёў ці баяраў (гэтак званыя служылыя княжаты).

Але да XVI ст. яшчэ захаваліся княствы з унутраным кіраваньнем, у якое вялікакняская ўлада ня ўмешвалася. Гэткія княствы, як Слуцкае, Клецкае й Мсьціслаўскае на тэрыторыі Віленскага ваяводзтва, Кобрынскае, Гарадзецкае, Пінскае і Тураўскае на тэрыторыі Троцкага ваяводзтва, складалі адасобленыя ад агульнадзяржаўнай тэрыторыі судова-адміністрацыйныя акругі зь незалежным ад ваяводаў кіраваньнем. Але князі, уладальнікі гэтых княстваў, падпарадкоўваліся ваяводам у вайсковых адносінах, выходзілі ў паход са сваімі апалчэньнямі ў складзе агульнага рушэньня ваяводзтва[14].

Такім чынам, ужо ў XV ст. ў Вялікім княстве Літоўскім існавалі дзьве групы князёў:

1) князі, якія захавалі свае вотчыны-ўдзелы (яны запрашаліся на соймы асобнымі лістамі Вялікага князя);

2) князі, якія зьнізіліся да агульнага становішча баяраў[15].

Увогуле, князі, пачынаючы ад прывілея 1434 г., узгадваюцца ва ўсіх дзяржаўных актах разам зь іншымі групамі фэадалаў[16], што паказвае на працэс паступовага зьліцьця й юрыдычнага ўраўнаваньня зь іншымі пластамі пануючага стану. Пры гэтым бліжэй за ўсіх князі-вотчыньнікі былі да вышэйшага разраду баярства — да паноў. Гэта адзначана ў попісах войска Вялікага княства Літоўскага 1529 і 1565 — 1567 гг.

Князі ўраўняліся зь іншымі фэадаламі ў прававых адносінах пасьля павятовай рэформы 1565-66 гг. і ўжо канчаткова актам Люблінскае вуніі 1569 г., калі буйныя князі ўжо не атрымоўвалі асобных запрашэньняў на сойм або ўвайшлі ў склад сенату Рэчы Паспалітай[17]. Пасьля Люблінскае вуніі ўсе прадстаўнікі фэадальнага стану (тытуляваныя і нетытуляваныя) лічыліся раўнапраўнымі шляхцічамі.

Другой групай стану фэадалаў былі "паны", або значныя (знатныя) баяры. Гэтая назва ўсталявалася ў мове актавых матар'ялаў ад сярэдзіны XV

ст.[18], хоць раўназначная лацінская назва "бароны" выступае ў граматах значна раней[19]. Па паходжаньні гэта былі нашчадкі беларускіх і літоўскіх значных ("старэйшых") баяраў, якія атрымалі ад вялікакняскае ўлады буйныя зямельныя валоданьні й зь цягам часу павялічылі іх. Зямельныя маёнткі належалі ім на аснове вотчыннага права — "с полным правом и панством", як і князям[20].

У XVI ст. у асяродзьдзі саміх паноў існавалі адрозьненьні ў маёмасным становішчы й палітычным значэньні розных групаў. Гэта адбілася на тэрміналёгіі. Гэтак, у статутах Вялікага княства Літоўскага й іншых актах называюцца Паны-рада духоўныя й сьвецкія, панове харугоўныя і проста паны (паняты)[21]. Асабліва выразна гэтая градацыя адлюстравана ў попісах войска Вялікага княства Літоўскага.

Першая група паноў самая вышэйшая, гэта найбольш буйныя землеўладальнікі, якія, акрамя таго, удзельнічалі ў вялікакняскай радзе. Другую групу складалі буйныя земляўладальнікі, якія выступалі на вайну ня ў складзе павятовай шляхты, а асобна са сваімі атрадамі, пад сваім сьцягам (харугваю)[22]. Прадстаўнікі гэтых дзьвюх катэгорыяў да сярэдзіны XVI ст. не падлягалі юрысдыкцыі звычайнай павятовай улады, а па важных справах судзіліся ў гаспадарскім (вялікакняскім) судзе з удзелам паноў-рады (або гаспадарскімі камісарамі, якіх накіроўваў на месцы Вялікі князь)[23]. Урэшце, паняты былі ніжэйшай катэгорыяй групы паноў, якія ўсё ж такі ўзвышаліся над сярэднім баярствам. Яны складалі асобную харугву ў войску — "дворную"[24].

Палітычныя правы паноў не былі спадчыннымі. Калі пан пазбаўляўся сваіх маёнткаў, ён зьніжаўся да становішча звычайнага баярына[25].

На самой справе, у другой палове XV ст. вышэйшы пласт земляўладальнікаў-фэадалаў (паны-рада й княжаты) склаў адзіную вялікую магнацкую групу вярхоў стану, з адзінымі станавымі інтарэсамі, незалежна ад этнічнага, рэлігійнага або іншага паходжаньня. Становішча й вага кожнай магнацкай сям'і перад усім залежала ад яе матар'яльнае, эканамічнае ці вайсковае моцы. Вялікія князі падзялялі з магнатамі сваю ўладу, бо бязь іх падтрымкі не маглі вырашыць асноўныя палітычныя задачы дзяржавы[26].

Асноўная маса фэадалаў — сярэднія й дробныя земляўласьнікі называліся ў XIV — XV стст. і ў першай чвэрці XVI ст. баярамі[27]. Пачынаючы з Гарадзельскага прывілея 1413 г., каб вызначыць у актах стан фэадалаў, разам з назвай "баяры" ўсе часьцей ужываецца назва "баяры-шляхта" або "шляхта" (паводле польскага ўзору).

У XV — XVI стст. у Берасьцейскай зямлі, Падляшшы й на Валыні фэадалы таксама мелі назву зямяне, што тлумачыцца як ужываньнем польскае тэрміналёгіі, гэтак і перасяленьнем некаторае часткі польскіх фэадалаў на гэтыя тэрыторыі[28]. У Статуце Вялікага княства Літоўскага 1529 года назва "зямянін" ужываецца для вызначэньня прадстаўнікоў фэадальнага стану ўвогуле[29].

На самай ніжэйшай прыступцы шляхецкага стану знаходзілася дробная шляхта, якая мела невялікія ўчасткі зямлі. Частка дробнае шляхты зна-



Бітва ліцьвінаў з крымчакамі. Гравюра XVI ст.

ходзілася ў васальных адносінах з князямі, панамі й буйною шляхтаю[30]. Большасць жа баяраў была васаламі гаспадара — Вялікага князя[31].

Значную была колькасць баяраў-шляхты, якая мела па некалькі фэадальна-залежных ад іх сялянаў, а часта наўогул ня мела сялянаў. Гэта, паводле тэрміналёгіі попісаў войска Вялікага княства Літоўскага, "конные бояре, которые людей не мають", "пешая шляхта"[32]. Гэта ўжо былі самыя нізы фэадальнага стану. Пры раздрабненьні сваіх зямельных участкаў паміж сынамі, а потым унукамі й г.н., калі йшоў натуральны рост баярскіх сем'яў, яны паступова пазбаўляліся сваіх малалікіх падданых. У гэтую ж групу ўваходзілі й тыя баяры, якія адразу атрымоўвалі за службу зямельныя ўчасткі з правам асаджваць сялянаў, але па нейкіх прычынах ня здолелі зрабіць гэтага.

У першай палове XVI ст. для акрэсьліваньня фэадалаў усё часьцей ужываюцца назвы "шляхта", "баяры-шляхта", "паны-баяры", "зямяне", нават "паны-баяры панцырныя", "шляхта панцырная" (у другой палове XVI ст. у Давыдгарадоцкім маёнтку Радзівілаў), "паны баяры конныя панцырныя" (у Копыскім маёнтку Радзівілаў). Гэткія баяры мелі па некалькі сялянаў, як гэта было ў Копыскім і Нясьвіжскім маёнтках Радзівілаў[33].

Статут Вялікага княства Літоўскага 1529 г. адлюстраваў тую гэрархічную структуру, якую ў той час мела фэадальнае саслоўе:

1) духоўныя фэадалы;
2) князі, княжаты;
3) паны, паны харугоўныя;
4) шляхта, зямяне, баяры[34].

У XV — XVI стст. існавала значная па колькасці група вайскова-служылага насельніцтва, якая зьяўлялася прамежкаваю і пераходнаю паміж фэа-

даламі й сялянамі. У склад яе ўваходзілі ня толькі нашчадкі дробных беларускіх і літоўскіх баяраў і дружыньнікаў, якія не ўвайшлі ў стан фэадалаў, але й верхавінная група сялянства (сяляне-слугі).

Вайскова-служылыя людзі прыймалі ўдзел у войнах Беларуска-Літоўскага гаспадарства ня толькі ў атрадах паноў, але часам і самастойна, конна й са зброяй, нароўні з шляхцічамі. Гэтак, у 1528 г. у Беларуска-Літоўскім войску было адзначана 10 баяраў путных і адзін конюх з Жалудка, двое "слуг путных, што людзей не маюць" з Рагачова, 34 сакольнікі замку Наваградзкага, 11 наваградзкіх садоўнікаў, 4 кухары, 1 псар і нават 1 наваградзкі лазебнік. У 1567 г. у войску запісаныя 7 слугаў путных самілішскіх з Троцкага павету[35] (потым нашчадкі гэтых путных слуг лічыліся шляхтаю)[36]. Усе гэтыя вайскова-служылыя людзі разам з баярамі-шляхтаю выступалі ў паход, як гаворыцца ў пастанове сойму — "с ыменей своих"[37]. У гэтым выпадку нават адсутнічае заўвага, што ў гэтых вайсковых-служылых людзей не было сялянаў. Паміж дробнымі фэадаламі й вышэйшай групай вайскова-служылых сялян у XVI ст. не заўсёды можна прывесці выразную мяжу[38].

Разам з баярамі-шляхтаю назва "баяры путныя" ўжывалася для вызначэньня й прадстаўнікоў вышэйшай групы вайскова-служылых людзей. Гэтая тэрміналягічная невыразнасьць адлюстроўвала тую пераходную ступень, якую ў эканамічных і сацыяльных адносінах займалі вайскова-служылыя людзі паміж фэадаламі й сялянамі[39].

Больш таго, вайскова-служылыя, якія зьяўляліся выхадцамі зь сялянаў, часам і самі мелі сваіх залежных сялянаў. Гэтак, у 1552 годзе ў Полацкай зямлі ў маёнтках "шляхты полацкай", як адзначана ў рэвізіі 1552 году, жылі баяры, слугі, "слуги путные", "слуги домовые", якія выконвалі вайсковую службу ў атрадах шляхцічаў — сваіх паноў. У часткі зь іх былі свае "отчизные" сяляне й агароднікі (ніжэйшая група сельскага насельніцтва). Некаторыя са згаданых вайскова-служылых людзей валодалі значнай колькасьцю сялян (нават болей, чым у дробнае шляхты). Гэтак, у "человека путного" Міхайлы Болатава на "отчизной земле" было 15 сялянскіх "дымов" (гаспадарак)[40].

Нашчадкі полацкіх панцырных і путных баяраў і слугаў захавалі свае прывілеі да канца XVIII ст., а нязначнай частцы іх у Расеі было прызнана дваранства[41]. Аналягічным было становішча віцебскіх панцырных баяраў[42].

Не заўсёды можна было правесьці й выразную мяжу паміж баярамі й мяшчанамі, якія валодалі маёнткамі паводля земскага права (гэткімі, напрыклад, былі конныя віцебскія мяшчане)[43].

Вайскова-служылыя сяляне намагаліся перайсці ў шэрагі саслоўя фэадалаў, і часта ім гэтае ўдавалася зрабіць. Былі выпадкі, калі баяры-фэадалы, якія не маглі выконваць павіннасьці, зьвязаныя з вайсковаю службаю, апускаліся ў шэрагі залежнага сялянства. У асобных, рэдкіх выпадках у склад шляхты пераходзілі й прадстаўнікі вольных незапрыгоненых сялянаў — "людей похожих"[44].

Усе вайскова-служылыя людзі Беларуска-Літоўскае дзяржавы былі блізкімі да становішча заходнеэўрапейскіх васалаў больш ранейшага перы-

яду. На Беларусі й Ліцьве мелася асноўная прыкмета васалітэту: пазямельныя адносіны паміж Вялікім князем або буйным фэадалам і вайскова-служылымі людзьмі, яны былі заснаваныя на спадчынным валоданьні ўчасткамі зямлі, абумоўленым выкананьнем пэўных, у васноўным вайсковых, павіннасьцяў.

Першы этап утварэньня ў Вялікім княстве Літоўскім фэадалаў як замкнёнага прывілеяванага стану вызначыўся выдзяленьнем самастойнае катэгорыі вайсковых слугаў, што завяршылася ў другой чвэрці XV ст.[45]

Ад першай чверці XVI ст. прымаюцца меры, каб адмежаваць шляхецкі стан. Фэадальнае заканадаўства Вялікага княства Літоўскага замацоўвае й пашырае нададзеныя вялікакняскаю ўладаю ў канцы XIV—XV стст. шляхецкія правы ў Статутах Вялікага княства Літоўскага 1529 і 1566 гг. і ў шэрагу прывілеяў.

Але гэты працэс усё ж зацягнуўся на дзесяцігодзьдзі. З канца XV ст. частымі сталіся судовыя справы аб доказе належнасці да шляхецкага стану са спасылкаю на сьведчаньні родзічаў і суседзяў[46]. Але ў заканадаўстве не было пэўнай дакладнасьці ў гэтым пытаньні. Гэта вымусіла Гаспадара й паноў-раду правесці ў 1522 г. на Віленскім сойме адпаведны закон — "уставу о выводе шляхетства за примовою". Для доказу шляхецтва чалавек, якога абвінавацілі ў тым, што ён ня шляхціч, павінен быў прадставіць суду двух шляхціч аў — сваякоў па дзеду і прадзеду (па бацькаўскай лініі — "па мячы"), якія мусілі прысягнуць, што ён іх родзіч і шляхціч. Ён меў права таксама замест прысягі сваякоў прадставіць суду старажытныя граматы пра шляхецтва сваіх продкаў, нададзеныя вялікімі князямі Вітаўтам, Жыгімонтам ці Казімерам або "некоторыми панами-радой", у якіх яго продкаў або яго называлі баярынам[47].

Попіс войска Вялікага Княства Літоўскага 1528 г. вызначыў асобаў, якія належалі да шляхецкага стану й выконвалі вайсковую службу. Потым, на працягу дзесяцігодзьдзяў і стагодзьдзяў, шляхцічы шмат разоў спасылаліся на яго, каб даказаць сваё (ці сваіх продкаў) шляхецтва[48].

Чарговым абмежаваньнем доступу ў фэадальны стан была "устава" дзяржаўцам і ўраднікам гаспадарскіх двароў Віленскага і Троцкага паветаў 1529 г., у якой дзяржаўным чыноўнікам у вялікакняскіх маёнтках было прапанавана перавесьці путных баяраў з вайсковай службы на паншчыну й аброк[49]. Аналягічная "ўстава" была выдадзена дзяржаўцам і цівунам Жамойцкай зямлі[50]. Граматы ("уставы") 1529 г. ў значнай ступені абмяжоўвалі пераход у шляхецкі стан прадстаўнікоў вышэйшай катэгорыі сялянаў. На прыватнаўладальніцкія маёнткі дзеяньне гэтых граматаў не распаўсюджвалася. Абмежаваньні не распаўсюджваліся таксама й на цэлы шэраг земляў Вялікага Княства Літоўскага.

У Статут 1529 г. былі ўключаны тры артыкулы аб доказе шляхецтва, з якіх галоўны (артыкул 11 разьдзела III "О звод шляхетства") ўстанаўляў парадак доказу. Шляхціч выстаўляў сьведкамі двух шляхцічаў, сваякоў з боку бацькі й маці, або (калі род спыніўся) сьведкамі былі навакольныя баяры-шляхта. Для іншаземцаў трэба было прадставіць афіцыйныя дакументы з роднае краіны[51].

Першы Статут адрозьніваў баяраў-шляхту, падданых вялікага князя, якія карысталіся ўсімі грамадзянскімі й палітычнымі правамі пануючага стану, землеўласьнікаў, якія валодалі сялянамі, і баяраў-слугаў, паднарадкаваных фэадалам, якія ўжо не належалі да пануючага саслоўя і якіх выстаўляў у паход іх пан прапарцыянальна колькасці фэадальна-залежных сялянаў у ягоных маёнтках[52].

Валочная памера і ўстава на валокі 1557 г. ў дзяржаўных маёнтках таксама замацавала адмежаваньне шляхецкага стану ад вышэйшае катэгорыі сялянаў. "Отмена" за ўзятую зямлю давалася толькі баярам-шляхце, а не сялянам. Вялікі князь зыходзіў з прынцыпу: "кметь и вся его маетность наша есть". У гаспадарскіх валасьцёх ужо даволі выразна была праведзена мяжа паміж фэадаламі й сялянамі-слугамі[53].

Далейшая дыфэрэнцыяцыя шляхецкага стану знайшла сваё адлюстраваньне ў адпаведных артыкулах Статута Вялікага Княства Літоўскага 1566 г., больш пашыраных і дакладных, чым у Першым Статуце Падкрэсьлівалася выключнае права шляхты на шляхецкія маёнткі й адзначалася, што наданьне шляхецтва зьяўляецца выключным выпадкам[54].

Адмежаваньне шляхецкага стану ад іншых сацыяльных групаў аднак не перашкаджала доступу ў склад яго асобным людзям і сем'ям. Але да сярэдзіны XVI ст. такі доступ робіцца магчымым шляхам сьпецыяльных наданьняў шляхецтва вайскова-служылым людзям, у тым ліку і зь сялянаў з боку Вялікага князя або гэтмана (на полі бітвы, з наступным зацьверджаньнем Вялікім князям). Выпадкі наданьня шляхецтва не былі ў сярэдзіне XVI ст. рэдкімі. Кожны раз у гэтым выпадку надаваўся прывілей на шляхецтва й гэрб[55]. Аднак гэты абмежаваны й рэгуляваны вярхоўнаю уладаю прыток у шляхецкае саслоўе асобных элементаў зь іншых сацыяльных катэгорыяў паказвае, што адмежаваньне фэадалаў ад іншых станаў і груп узмацнілася.

Статут 1529 г., акрамя артыкулаў аб прывілеях шляхты, аб яе зямельных правох і аб парадку доказу шляхецтва, вызначыў вельмі высокую галаўшчыну за ненаўмыснае забойства шляхціча шляхцічам -- 100 коп грошаў літоўскіх (у пяць разоў больш за галаўшчыну путнага слугі) й 100 копаў штрафу ў скарб вялікага князя[56]. Ён у Статуце 1529 г. гарантаваў шляхце, што "не шляхту над шляхту не маем повышати, але всю шляхту заховати в их почтивости"[57].

Акрамя артыкулаў пра шляхецкае павятовае самакіраваньне й пра ранейшыя прывілеі, у Статуце 1566 г. падкрэсьлівалася, што вайсковая служба зьяўляецца ганаровым абавязкам шляхцічаў, а заняткі рамяством і гандлем ганьбяць іх. У асобным артыкуле гаварылася, што шляхціч, які пераехаў у горад і "торг меский ведучи або шынк в дому маючы або ремесло робечы" часова пазбаўляўся шляхецкіх правоў. Але дзеці такога шляхціча мелі права вярнуцца да "рыцарских дел" з поўным захаваньнем ім шляхецкіх правоў[58].

У асяродзьдзі самога саслоўя фэадалаў існавалі ўнутраныя супярэчнасьці паміж магнатамі й асноўнаю масаю шляхты. Яны былі выкліка-ны незадавальненьнем шырокае масы шляхты палітычным панаваньнем фэа-

дальнай знаці. Чым далей ішоў працэс афармленьня шляхецкага стану, тым больш рашуча беларуская, літоўская й украінская шляхта пачала выстаўляць палітычныя патрабаваньні аб ураўнаваньні сваіх правоў з правамі фэадальнае знаці.

У пэўнае ступені прыкладам для шляхты Беларуска-Літоўскага гаспадарства была польская шляхта, якая ад 1505 года трымала ў сваіх руках усё заканадаўства краіны[59]. Аднак шляхце Беларусі, Украіны і Літвы прыйшлося доўгі час дабівацца аналягічных правоў. Першым буйным посьпехам тутэйшае шляхты ў гэтае справе зьявіўся яе пашыраны ўдзел у вялікім вальным сойме ( на пачатку XVI ст.). Гэта было выклікана палітыкаю вялікакняскае ўлады, якая намагалася абапірацца на шырокія колы фэадалаў у правядзеньні сваёй зьнешняй і ўнутранай, асабліва фіскальнай, палітыкі[60]. Тым не менш фэадальная знаць не здавала сваіх пазіцыйяў.

Яшчэ ў сярдзіне XVI ст. беларуская й літоўская шляхта незаўсёды магла карыстацца на практыцы ўсімі прывілеямі пануючага стану. Больш таго, дробная шляхта часта падвяргалася ўціску з боку прадстаўнікоў вялікакняскае адміністрацыі — старастаў і буйных фэадалаў. Так, на Люблінскім сойме 1569 г. паслы скардзіліся на старастаў, якія прымушалі шляхту, якая мела толькі адзін абавязак — хадзіць на вайну або сьцерагчы замкі, выконваць простую работу: паліць печы, секчы дровы й насіць ваду[61]. Шляхта, якая жыла ў маёнтках магнатаў і служыла ім, была ім жа падсудна. Праўда, шляхціч меў права апеляваць на рашэньне замкавага магнацкага суда ў дзяржаўным гродзкім судзе[62].

Толькі ў сярэдзіне XVI ст. становішча шляхты Беларусі і Літвы пачало сур'ёзна зьмяняцца. Рэформа судовых органаў, якія цяпер выбіраліся ў паветах самою шляхтаю, усё больш ўплыў павятовых соймікаў, паслы якіх выбіраліся ў паветах усёю шляхтаю, узмацненьне значэньня соймаў ў палітычным жыцьці Беларуска-Літоўскага гаспадарства, кадыфікацыя фэадальнага права (Статуты Вялікага княства Літоўскага) — усё гэта было накіравана на ўзвышэньне палітычнае ролі шляхты, якая на тым этапе сталася саюзьніцай вярхоўнае, вялікакняскае улады ў барацьбе супроць буйной фэадальнай знаці. Гэты саюз атрымаў сваё адлюстраваньне ў прывілеі вялікага князя Жыгімонта Аўгуста 1547 г., паводле якога прызнаваліся вольнасці "панов-рад обоего стана, духовного и светского, римского и греческого, княжат, панят и всего рыцарства"[63].

У 1563 г. Жыгімонт Аўгуст выдаў прывілей, які канчаткова скасаваў архаічныя артыкулы Гарадзельскага прывілея (якія, дарэчы, даўно ўжо не выконваліся) аб прадастаўленьні ўплывовых у дзяржаве пасад Віленскага ваяводы й кашталяна, а таксама Троцкага ваяводы й кашталяна каталікам. Правы каталіцкае і праваслаўнае шляхты былі цалкам і канчаткова ўраўнаваны[64]. Люблінская унія 1569 года, якая стварыла фэдэратыўную дзяржаву Рэч Паспалітую й супроць якой спачатку выступілі магнаты Беларусі й Літвы, была яшчэ адным крокам наперад па шляху ўмацаваньня палітычных пазіцый шляхты ў Вялікім княстве Літоўскім.

1. Пашуто В.Т. Образование Литовского государства. — М., 1959. — С. 303.
2. Пресняков А.Е. Лекции по русской истории. — М., 1939. — Т. 2. — Вып. 1 — С. 110-4.
3. Довнар-Запольский М. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. — Киев, 1901 -- Т. I — С. 585.
4. ZPL. — Poznan, 1841. — S. 1.
5. Monumenta medii aevi historica res gestas Poloniae illustrantia. — Craccviae, 1894. — T. XIV. — P. 523.
6. ZPL., s. 28, 58, 95-7.
7. Bardach J. Historia panstwa i prawa Polski — W-wa,1973. -- T 1 -- S. 419-26.
8. ZPL, s. 1,2
9.Tamze, s. 16-8.
10. Monumenta, p. 523, 524, 529-31; Любавский М. Литовско-русский сейм. — М., 1900. -- С. 75-6, 81-2; Любавский М. К вопросу об ограничении политических прав православных князей, панов и шляхты в Великом княжестве Литовском до Люблинской унии // Сборник статей, посвященных Василию Осиповичу Ключевскому. — М., 1909. — С. 2, 6, 17.
11. Любавский М.К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. — М., 1915. — С. 77-8, 325-8.
12. Там же, с. 78.
13. Monumenta, p. 523, 530; ГБДМ. — Мн., 1936. — Т.1. — С. 216, 218, 220, 226, 227, 231, 243.
14. Леонтович Ф.И. Правоспособность литовско-русской шляхты // ЖМНП. — 1908. — Июль. — С. 39-43; Пресняков, с. 112, 119.
15. Лаппо И.И. Великое княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии до смерти Стефана Батория (1569-1586). — СПб., 1901. — Т. 1. — С. 256.
16. ГБДМ, с. 216.
17. Лаппо И.И. Великое княжество Литовское ..., с. 261-2.
18. ZPL, s. 28-34.
19. Tamze, s. 3.
20. Любавский М.К. Очерк истории .., с. 133.
21. Леонтович Ф.И. Правоспособность .., с. 45-6.
22. Там же, с. 46.
23. Пресняков, с. 207-8
24 ГБДМ, с. 283.
25. Леонтович Ф.И. Правоспособность.., с. 47.
26. Любавский М. Литовско-русский сейм, с.361-2; Пресняков, с. 209.
27. Леонтович Ф.И. Бояре и служилые люди в Литовско-Русском государстве // ЖМНП. — 1907. -- Май — С. 223-7, 261.
28. Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского Статута. — М., 1892. — С. 543-4.

29. Статут Великого княжества Литовского 1529 года. — Мн., 1960. — С. 44 и последующие.
30. Любавский М.К. Литовско - Русский сейм, с 101, 762; Любавский М.К. Очерк истории.., с. 140-1.
31. Пичета В.И. Белоруссия и Литва XV-XVI вв. — М., 1961 — С 196
32. Литовская метрика. Отд. 1, Ч. 3 : Книга публичных дел. — Пг., 1915. — Стб. 26-32, 35, 38, 39 и др., стб. 593, 602, 673, 712, 794 и др. — (РИБ; Т. XXXIII).
33. Грицкевич А.П. Сельское население по Литовскому статуту 1566г. // Вопросы истории: Тезисы докладов XII конференции молодых ученых Белорусской ССР. — Мн., 1969. — С. 127.
34. Лазутка С.А. Литовский Статут — феодальный кодекс Великого княжества Литовского. — Вильнюс, 1978. — С. 114-29.
35. Грицкевич А.П. Сельское население .., с. 126.
36. Romer K. Rycerstwo wiejskie w okolicach Trok. Bojarzy Somiliscy, 1475-1575 // Z ziemi pagorkow lesnych, z ziemi lak zielonych: Ksiazka zbiorowa poswieccona pamieci A. Mickiewicza w stuletnia rocznice jego urodzin. 1798-1898. — W-wa, 1899. — S. 132-65.
37. Литовская метрика, с. 1.
38. Грицкевич А.П. Хозяйственное и правовое положение военно-служилого населения в Слуцком княжестве в XVI-XVIII вв. //ЕАИ 1962. — Мн., 1964. — С. 242-6.
39. Гісторыя Беларускай ССР. — Мн., 1972. — Т. 1. — С. 195.
40. Лаппо И.И. Полоцкая ревизия 1552 года. — М., 1905. — С. 54.
41. Без-Корнилович М.О. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии. — СПб., 1855. — С. 259-61.
42. Сементовский А. Историческая записка о панцирных боярах // Памятная книжка виленского генерал-губернаторства на 1868 год.— СПб., 1868. — С. 43-59.
43. Лаппо И. К истории сословного строя Великого княжества Литовского. Конные мещане витебские в XVI столетии // Сборник статей, посвященных В.О. Ключевскому. — М., 1909. — С. 254-76.
44. Любавский М. Литовско-русский сейм, с.434-6; Довнар-Запольский, с.644-6; Kutrzeba S. Historja ustroju Polski w zarysie. — Lwow, 1921. — T.2. — S.40, 55, 62.
45. Gudavicius E. Slektu atsiskyrimas nuo bajoru Lietuvoje XVI a. (2. Del XVI a. privilegijuotuju "neprivilegijuotuju" bajoru) // Lietuvos TSR Mokslu akademijos darbai. — 1975. — A serija. — T. 3(52). — S. 65-74.
46. Любавский М. Литовско-русский сейм, с.436-9.
47. Там же, с. 439-40.
48. Kutrzeba, s. 41.
49. АЗР. — СПБ., 1848. — Т.2. — С.195-9.
50. Там же , с.199-203.
51. Статут Великого княжества Литовского 1529 года, с.50.

52. Юрчинис Ю.М. Бояре и шляхта в Литовском государстве // Восточная Европа в древности и средневековье. — М., 1978. — С. 129-30.
53. Любавский М. Литовско-русский сейм, с.448-51.
54. Статут Великого княжества Литовского 1566 года, — М., 1855. — С. 50-4.
55. Любавский М. Литовско-русский сейм, с. 454-62.
56. Статут Великого княжества Литовского 1529 года, с.91.
57. Там же, с.50.
58. Статут Великого княжества Литовского 1566 года. — М., 1855. — С.52.
59. Любавский М. Очерк истории., с.217-8.
60. Пичета В.И. Литовско-польские унии и отношение к ним литовско-русской шляхты // Пичета В.И. Белоруссия и Литва XV-XVI вв. — М, 1961. — С.541.
61. Jaroszewicz I. Obraz Litwy pod wzgledem jej cywilizacji od czasow najdawniejszych do konca wieku XVIII. — Wilno, 1844. — Czesc II. — S.55.
62. Tamze, s.164 ; Malinowski M. O ziemianach podlug dawnych praw litewskich // Teka Wilenska. — 1857. — № 1. — S. 244.
63. ZPL, s. 419.
64. БЭФ. — Мн., 1959. — Т.1. — С.141 - 3.

## АНДРУШЭВІЧЫ
(Андрашэвічы, Андрушовічы,Андрюшовічы)
ГЭРБУ "ДАЛІВА"



(некаторыя гэральдысты паказваюць гэты род пад гэрбам "Магіла", што, напэўна, выклікана памылкаю, бо ёсць род Андрушкевічаў гэтага гэрбу).

Першыя зьвесткі паходзяць з 1488 — Сенко Андрушовіч Радуньскі цівун. Аляксандар Ягелончык пацьвярдзіў ягонаму сыну Мікалаю Сенковічу Андрушэвічу прывілей на зямельнае ўладаньне. У 1522-29 Мікалай чашнік Літоўскі, у 1527 каралеўскі лацінскі пісар, у 1533-40 стараста Мельніцкі.

Сыны Мікалая — Войцех, чашнік Літоўскі (1533) і Мікалай, пісар каралеўскіх Віленскіх двароў (1532). Мікалай Мікалаевіч у 1539-47 дзяржаўца Гожскі й Пераломскі, у 1542 сакратар у пасольстве Яна Глябовіча да Масквы, з 1544 канюшы дворны Літоўскі. Жанаты быў на Ганьне Мацееўне Пяткевіч (+ < 1566), памёр прыкладна ў 1548. Ён меў двух сыноў Станіслава і Крыштафа, апошні таксама быў канюшым (1566).

Напэўна, братам Мікалая й Войцеха быў Ян — біскуп Кіеўскі (1545—55, 1569, 1591), біскуп Луцкі й Берасьцейскі (1555-65). Уваходзіў у паны-раду, падпісаў агульназемскі прывілей, дадзены Жыгімонтам Аўгустам 7.VI.1563, які канчаткова ўраўняў у правох праваслаўных і каталікоў.

Па некаторых зьвестках і Ян II біскуп Луцкі таксама быў з роду Андрушэвічаў, памёр у 1499.

*АВАК — Вильна, 1895.— Т.XXII.—С 381-3, 425-7; АВАК — Вильна, 1904. — Т.XXX.—С. 238; Беларускі архіў. — Мн., 1930. — Т.III — С. 30, 36, 42, 46, 260-1, 268, 499, 502, 504; Литовская метрика. Отд. 1, Ч.1: Книга судных дел.— Пг., 1903. — Стб. 712. — (РИБ; Т.XX).; Литовская метрика. Отд. 1. Ч.3.: Книга публичных дел. — Пг., 1915. — Стб. 491 — (РИБ; T.XXXIII); Boniecki A. Herbarz Polski.— W-wa,1899.—T.I.—S.38; Kojalowicz W.W. Herbarz rycerstwa W.X. Litewskiego, tak zwany Compendium. — Krakow, 1897. — S.44; Niesiecki K. Herbarz Polski. — Lipsk,1839. — T.II. — S.292; PES. — W-wa, 1936. — T.IV. — S.101; PSB. — Krakow, 1935 — T.I.—S.97-8.*

## АНДРУСЕВІЧЫ
## (Андрушэвічы, Сыракомля-Андрушэвічы, Андрусэвічы)
## ГЭРБУ "СЫРАКОМЛЯ".



Станіслаў Сыракомля-Андрушэвіч, судзьдзя земскі Мазырскі (1637-48), падпісаў элекцыю Яна-Казіміра. Меў сыноў Станіслава, ротмістра Аршанскага і Самуэля, паручніка войска Літоўскага. Сын Станіслава Пётр — таварыш пяцігорскі, возны Наваградзкі. Сыны Самуэля — Стафан і Якуб-Эляш, харужы Мазырскі.

З часу акупацыі Рэчы Паспалітай прадстаўнікі роду больш не займалі ніякіх пасадаў, і род паступова гібее, нічым не вылучаючыся зь іншае шляхты.

Прыкладна зь сярэдзіны XVIII ст. форма прозьвішча канчаткова замацоўваецца ў варыяньце Андрусевіч, тадыж перастае ўжывацца й назва гэрбу як прыдомку.

У 1817, 1832, 1836 і 1858 гадох роду былі пацьверджаны шляхецкія правы ў Менскай губэрні, у 1859 годзе ён быў зацьверджаны ў дваранстве Расейскай імперыі ўказам Сената з аднясеньнем да 6-ай часткі радаводных кнігаў (старажытнае дваранства).

У XVIII — XIX стст. Андрусевічы шырока расьсяліліся па Случчыне й Капыльшчыне, і ёсьць падставы меркаваць, што род ня выгас і да сёньняшняга дня.

*НА РБ — Ф.319, воп 27, спр. 46: Дело о дворянстве рода Андрусевичей; Bonieeki A. Herbarz Polski — W-wa, 1899 — T I — S 38; Kojalowicz W W Herbarz rycerstwa W.X.Litewskiego, tak zwany Compendium — Krakow,1897 — S 44 , Niesiecki K. Herberz Polski. — Lipsk,1839 — T.II — S 292*

Усе гэральдысты аб'ядноўваюць гэтых людзёў у вадзін род. Апісваючы Андрушэвічаў гэрбу "Даліва", Каяловіч прыводзіць няведамага пазь імя харужага Мазырскага, Нясецкі й Банецкі згадваюць Станіслава, Мазырскага судзьдзю й элекцыю Яна-Казіміра. Але на сёняшні дзень дакументальных сьведчаньняў аб адзінстве роду няма.

*Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.*

## БЯРНОВІЧЫ (Бітнер-Бярновічы) ГЭРБУ УЛАСНАГА



Бярновічы ў канцы XVIII ст. выводзілі сябе з Прусіі (1560), адкуль перасяліліся ў Інфлянты й ВКЛ.

Ян — маёр войска ВКЛ (1683), стольнік Вендэнскі (1701), у гэтым жа годзе й памёр. Ягоны сын Юры-Вільгельм па сьмерці бацькі па прывілею Аўгуста II пераняў Вендэнскае стольніцтва (1701), у 1704-07 вобэрлейтэнант райтарскага палка. У тастаменьце ад 15.XII.1717 свае дзедзічныя маёнткі Бабоўню й Мардзьвінаўшчыну Слуцкага павету адпісаў сыну Юрыю.

Міхал (* 24.IX.1734; +> 1802), сын Юрыя ў 1745 атрымаў прывілей Аўгуста III Саса на закладаньне мястэчка ў вотчынным маёнтку Бабоўня пад апекаю свайго дзядзькі Міхала Мераеўскага. Каптуровы су-дзьдзя Наваградзкі, пасол на элекцыйны Сойм (1763). Стараста Крэўскі (1764), камісар па люстрацыі дымоў у Наваградзкім ваяводзтве й пісар Трыбуналу ВКЛ (1767, 1774). Абозны (1769), падчашы (1780), судзьдзя земскі (1783) Наваградзскі. Камісар Скарбовай камісіі ВКЛ (1780, 1782), пасол Сойму 1788 году. Кавалер ордэнаў сьв. Станіслава (1791); Белага арла (1792). Падкаморы (1792), маршалак (1795-1802) Слуцкі. Рэчаісны стацкі саветнік Расейскае імпэрыі (1796).

Сарвацы-Станіслаў-Антон (* 14.V.1784; + ≈ 1835), сын Міхала. Уладальнік маёнткаў Бабоўня, Грозава, Рымашы Слуцкага павету. Старшыня Менскага галоўнага і памежнага судоў, старшыня галоўных судоў Менскай губерні, маршалак Слуцкі (1808-11). Кавалер ордэну сьв. Ганны II ступені (1817).

У 1799, 1827, 1833, 1835, 1852 і 1883 гадох роду былі пацьверджаны шляхецкія правы ў Менскай губэрні, а ў 1836 і 1856 гадох ён быў зацьверджаны ў дваранстве Расейскай імперыі указам Сената з аднясеньнем да 6-й часткі радаводных кнігаў (старажытнае дваранства).

*НА РБ. — Ф. 319, воп. 2, спр. № 135: Дело о дворянстве рода Берновичей; Список землевладельцев Минской губернии за 1876 год. — Мн., 1877. — С. 9; Список землевладельцев Минской губернии за 1888 год. — Мн., 1889. — С. 4, 380; Boniecki A. Herbarz Polski. — Lipsk, 1839. — T. II. — S.; PES. — W-wa, 1935. — T. II. — S. 30-1,305, — W-wa, 1936, — T. IV. — S. 168, 199; Stupnicki H. Herbarz Polski i imionopis zasluzonych w Polsce ludzi wszystkich stanow i czasow. — Lwow, 1855. — T. 1. — S. 24, — Lwow, 1859. — T. 2. — S. 58.*

*Леанід Акаловіч.*

## ВІЦЕБСКІЯ Й МАГІЛЁУСКІЯ ШЛЯХЕЦКІЯ ДАМЫ, ШТО НЕ БЫЛІ ЗАЦЬВЕРДЖАНЫ У ДВАРАНСТВЕ РАСЕЙСКАЙ ІМПЕРЫІ.

Сёньня не йснуе дастаткова выверанай статыстыкі колькасьці шляхецкага стану, а тым больш поўны пералік прозьвішчаў. У Вялікім княстве гэтым асабліва не цікавіліся; што да часоў расейскае акупацыі, то мэты былі іншыя. Там ня дзейнічала "прэзумпцыя нявіннасьці" ў гэтых дачыненьнях, беларускі шляхціч павінен быў даказваць свае паходжаньне, калі жадаў карыстацца правамі вышэйшага стану й быць зацьверджаным у дваранстве Расейскай імперыі.

Калі пасьля часу Разбораў стаўленьне новых уладаў было больш лагоднае, ішло зайграваньне, дык па паўстаньні 1831 году ўсё карэнным чынам зьмянілася. Увесь час уводзіліся новыя правілы,удакладненьні абмежаваньні (гэтаму пытаньню з часам будзе прысьвечаны асобны артыкул). І як сьведчаньне — шмат шляхецкіх родаў было не зацьвер-джана ў дваранстве РІ й адпаведна пазбаўлена сваіх правоў.

Ніжэй друкуем сьпіс зь 90-а незацьверджаных родаў па Магілёўскай і Віцебскай губэрнях. Зьвесткі ўзяты са справаў № 11280 "Сведения о неутверждённых фамилиях, отклонённых герольдией в дворянском достоинстве" і № 11306 "Алфавит фамилиям, непризнанным в дворянстве" вопіса 1 фонда 1297 : Канцэлярыя Віцебскага, Магілёўскага й Смаленскага гэнерал-губэрнатара Нацыянальнага архіву Беларусі.

Пры параўнаньні справаў высьветлілася, што "Алфавит..." мае няпоўныя зьвесткі і ў дальнейшым ён не скарыстоўваўся. "Сведения..." ўтрымліваюць рашэньні Гэрольдыі аб непрызнаньні з розных прычынаў па 188-і родах персанальна, зь вясны 1839 па вясну 1841 гадоў. Акрамя таго, справа ўтрымлівае 2 дакументы зь пералічэньнем прозьвішчаў, якія не былі прызнаныя за час да вясны 1839г. — гэткіх родаў 111.

Намі было праведзена параўнаньне ўсіх прозьвішчаў са сьпісамі дваран Віцебскай і Магілёўскай губэрні па кнізе: Spis szlachty wylegitymowanej w guberniach Grodzienskiej, Minskiej, Mohylewskiej, Smolenskiej i Witebskiej. — Орг. Dumin S. i Gorzynski S. — Warszawa, 1992. Атрымалася, што 84 рода адсутнічаюць навогул; 5 родаў маюць падвоенае прозьвішча, а 1 патроенае, адна частка якіх згадваецца ў сьпісе, але сьцьвердзіць тоеснасьць родаў мы ня можам, пагэтаму гэткія прозьвішчы ўключаныя ў сьпіс і падаюцца курсівам.

У квадратовых дужках падаецца ўласна беларускае напісаньне спалянізаваных формаў прозьвішчаў.

Пазасталыя 209 родаў дамагліся прызнаньня ў расейскім дваранстве ў пазьнейшы час і ў сьпіс ня ўключаны.

Нам вядома, што аднолькавае прозьвішча могут мець і роды зусім рознага паходжаньня й механічнае атаесамленьне ня може быць на 100% правільным, але з-за немажлівасьці праверкі кожнага канкрэтнага дакумента вымушаны пайсьці гэткім шляхам.

Таксама вядома, што былі выпадкі сьвядомага падману й фальшаваньня, імкненьні атрымаць не належную годнасьць, але выклікае зьдзіўленьне незацьверджаньне гэткіх старажытных родаў, як Адахоўскіх, Дэдэркаў і г.н.; незацьверджаньне ж баронаў Гейкінгаў навогул невытлумачальна, яны ўнесены ў матрыкулы Курляндыі, лепшага доказу шляхецтва прыдумаць цяжка.

*Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.*

1. Адахоўскі
Адравонж — гл. Бебноўскі
2. Ахрамовіч
3. Бабяцінскі
Бабяцінскі — гл. Папядзінскі
4. *Бебноўскі* Адравонж — ...
5. Будзінскі
6. Варашыла
7. Верцахоўскі
8. Відмант
Галубіцкі — гл. Корсак
9. *Гаражанскі* Гразны — ...
10. Гасьлінскі
11. Гатартовіч — Жахоўскі
12. Гейкінг
13. Гладыш
14. Глускі
Гразны — гл. Гаражанскі
15. Грамацкі
16. Дацынскі
17. Дзянісевіч
18. Дзятловіч
19. Добрык
Дульмант — гл.Пранеўскі
20. Дурасевіч
21. Дыбоўскі
22. Дэдэрка
23. Дэмбскі [Дубскі]
Жахоўскі -гл. Гатартовіч
24. *Зубоўскі* Зьверазуб - ...
Зьверазуб - гл.Зубоўскі
26. Ішора
27. Капчынскі
Кароўчыч - гл. Пранеўскі
28. Карштэйн
29. Касьперскі
30. Касьцюкевіч
31. Касьцюшка Хабалтоўскі — ...
32. Катлінскі
33. *Корсак* Галубіцкі — ...
Краснашчок — гл. Красоўскі
34. *Красоўскі* Краснашчок — ...
35. Кржэсінскі [Красінскі]
36. Кроп
37. Лаўгіновіч
38. Лецкі
39. Ліпніцкі
40. Ліхіна
41. Лютынскі
42. Маліцкі
43. Маркевіч
44. Мартусевіч
45. Матукевіч
46. Мацiяс
47. Мацу(-ы, -э)левіч
48. Міхалькевіч
49. Міштаўт
50. Няміра альбо Неміровіч*
Неміровіч — гл. Няміра
51. Пазьнянскі (Позьненскі ?)
52. Папядзінскі альбо Бабяцінскі*
53. Паргінскі

*гэтак у дакументах

54. Петрашкевіч
55. *Пранеўскі* Кароўчыч-Дульмант -...
56. Радзішэўскі
Рак — гл. Рэк
57. Ржоншэўскі [ Рушэўскі]
58. Ржэпецкі [Рапецкі ]
59. Ржэшэўскі [Рашэўскі]
60. Рыхліцкі
61. Рэк(Рак?)
62. Сабака
63. Сальцэвіч
64. Сарцэвіч
65. Сафрановіч
66. Сербіновіч
67. Страмкоўскі [Струкоўскі ?]
68. Стука
69. Стычынскі
70. Стэмпаржэцкі [Ступарэцкі]
71. Суле(-о)ўскі
72. Сухар
73. Сьпягальскі
74. Трэйс
75. Уладзецкі
76. Франё
Хабалтоўскі — гл. Касьцюшка
77. Хадакоўскі
78. Цілішэўскі
79. Цых
80. Цэймерн
81 Штуньц
82. Шукшт
83. Шчаванскі
84. Шчурскі
85. Шымак
86. Шыхоўскі
87. Эрынг
Юхна — гл. Якімовіч
88. Яварoўскі
89. Якімовіч Юхна — ...
90. Якубовіч

*Люты А.М., Тумiловiч Г.М., Дваранства Беларусі ў перыяд разлажэння і крызісу феадалізму (канец XVIII — першая палова XIX ст.)· Вучэбна-метадычны дапаможнік. — Мінск, 1991. — 20с.*

У апошні час назіраецца рост цікаўнасьці да гісторыі шляхты. Нават зьявіўся дапаможнік для студэнтаў Менскага педінстытуту, які рэкамендуецца да скарыстаньня ў якасьці матэр'ялу сьпецкурсаў і семінараў.

Аўтары справядліва зазначаюць, што пытаньне, якое датычыць непасрэдна дваранства Беларусі, з упэўненасьцю можна аднесьці да пытаньняў слаба распрацаваных у навуковай літаратуры. Але адказы на яго шукаюць чамусьці ў працах Ключэўскага, Яблачкава і Рамановіча-Славацінскага, якія нічога пра беларускую шляхту й не пісалі, а займаліся гэнезай вышэйшага стану Расеі.

Нават скарыстаньне таго ж тэрміну "дваранін" нам уяўляецца далёка не заўсёды патрэбным. У гістарычным сэнсе дваранін у ВКЛ — гэта прыдворны Вялікага князя, у Расеі ж гэты тэрмін вызначаў станавы статус чалавека. Справядлівым трэба было б лічыць вызначэньне двараніна ў новы час, як шляхціча, які быў зацьверджаны ў дваранстве Расейскай імперыі, што службовыя асобы апошняй заўсёды вытрымлівалі.

Вельмі цікавым і зусім незразумелым бачыцца падзел шляхты. На наш погляд, гэтае атрымалася з таго, што зьвесткі былі запазычаны з розных аўтараў і не адбылося ўніфікацыі. Чаго напрыклад варты гэткі "разрад дваран" — "касьцеляны і ўладальнікі багатых прыходаў". На Беларусі было толькі 9 кашталянаў (10-ы Жмудзкі) і Беларусь не Францыя, у нас не было сьвецкіх абатаў — прыходы належалі царкве.

Дазволю сабе йшчэ адну цытату: " У першай палове XIX в. *узмацніўся* (выдзелена мною — У.) працэс расслаеньня дваранства Беларусі на невялікую частку магнатаў, валодаўшых вялізным зямельным багацьцем і сотнямі тысяч сялян, праслойку сярэдніх і дробных памешчыкаў, якія мелі населеныя маёнткі і асноўную колькасьць шляхты, якая ня мела ні прыгонных, ні зямлі". Нам здаецца, што і сотняй гадоў раней гэты падзел быў ужо даўно скончаны.

Значна больш патрэбным быў бы разгляд катэгорыяў шляхты, шматлікіх прамежкавых груповак, адносіны да іх расейскіх уладаў, у пераемнасьці часу, прыкладам у канцы XVIII ст. і пасьля паўстаньня 1831 года. А пакуль што ваганьні й перапады колькасьці стану аўтары тлумачаць вырабам фальшывых дакументаў і больш дасканалым улікам непадатковых станаў.

Навогул аўтары маюць вялікую цікаўнасць да статыстыкі, і большасьць іхнай працы прысьвечана праблеме падліку колькасьці шляхты Беларусі ў

апісаны перыяд. Тэма гэтая вельмі цікавая сама па сабе, але праца чамусьці называецца "Дваранства Беларусі...", аналізу ж сацыяльнага ці гаспадарчага становішча няма, акрамя глыбокіх фразаў накшталт: " Нягледзячы на агульны працэс скарачэньня дваранскага саслоўя ў беларускіх губернях, яны займалі першыя месцы ня толькі па агульнай колькасьці гэтага саслоўя, але і па ўдзельнай вазе сярод усяго насельніцтва".

Аўтары, трэба аддаць належнае, спрабуюць разгледзець працэс пераходу аднадворцаў і грамадзянаў у стан чыноўніцтва й буржуазіі, але гэткіх, як і самі паказваюць, было няшмат, у зьвязку з колькасьцю шляхецкага стану.

Пытаньні, што ўзьдымаюцца ў працы і як зьмяніліся гаспадарчыя заняткі шляхты, і як ішоў працэс размываньня адзінства стану, і якія былі дачыненьні расейскіх уладаў да шляхты Беларусі вельмі актуальны. Шкода, праўда, што нашыя студэнты не атрымалі канкрэтнага адказу, ці хоць нейкага ўяўленьня.

*У.*

---

## СЬПІС СКАРАЧЭНЬНЯЎ:

АВАК — Акты, издаваемые Виленскою Археографическою комиссией.

АЗР — Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографическою комиссией.

АСЗР — Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси, издаваемый при управлении Виленского учебного округа.

БСЭ — Беларуская савецкая энцыклапедыя.

БЭФ — Белоруссия в эпоху феодолизма.

ВОИДР — Временник московского Императорского Общества истории и древностей российских.

ГБДМ — Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах.

ЕАИ — Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы.

ЖМНП — Журнал министерства народного просвещения.

НА РБ — Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь.

РИБ — Русская историческая библиотека.

САИ — Сборник Археологического института.

ЧОИДР — Чтения в московском Обществе истории и древностей российских.

PES — Polska encyklopedja szlachecka.

PSB — Polski slownik biograficzny.

ZPL — Zbior praw litewskich.

Hodnasc(Dignity)

Contents



Годнасьць (Достоинство)

Содержание